 




Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

21 чэрвеня 2002 года
№ 25 (374)
Выходзіць па пятніцах

ПЛЮС Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёна



### Фінберг прывязе «Нарачанскія хвалі»

**МЯДЗЕЛ**. Сёння ў 15 гадзін у Купе ля кафэ «Цеплаход» распачнецца фестываль джаза і песні «Нарачанскія хвалі». Адразу будзе гала–канцэрт эстраднай музыкі, у якім выступяць салісты Дзяржаўнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. А сярод іх Ларыса Грыбалёва, Мікалай Скорыкаў і іншыя. Потым пачнецца джазавы канцэрт.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Без медалёў

**МАЛАДЗЕЧНА**. Беларуская гімназія існуе 10 гадоў. Кожны год яна ганарылася сваімі медалістамі. У мінулым годзе было 5 сярэбраных. Найбольш "ураджайным" быў 1994 год – 6 залатых і 12 сярэбраных. У гэтым жа – ніводнага.
Намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце Лідзія Сурынт тлумачыць гэта вялікімі патрабаваннямі настаўнікаў да вучняў. І жорсткай сістэмай узнагароджання медалямі. Але ў гімназіі самы высокі працэнт паступлення ў розныя навучальныя ўстановы. Таму медаль тут не паказчык.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Трагедыя ў Дайлідках

**АСТРАВЕЦ**. На мінулым тыдні васьмігадовы хлопчык з вёскі Дайлідкі павесіўся ў сябе дома. Прычыны трагедыі высвятляюць праваахоўныя органы.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Прымуць у кадэты

**ВІЛЕЙКА**. 22 чэрвеня, у суботу, у лесе каля вёскі Забродддзе Нарачанскага сельсавета на месцы размяшчэння шпіталя часоў Першай сусветнай вайны пройдзе прысвячэнне ў кадэты курсантаў Мінскага сувораўскага вучылішча. У мерапрыемстве возьмуць удзел і бацькі хлапчукоў.

**Мікола ГАЙДУК.**

### Савецкую перакрылі...

**СМАРГОНЬ**. Рашэннем райвыканкома перакрылі галоўную вуліцу горада. Цяпер вуліца Савецкая ператворана ў пешаходную частку. Гараджанам ідэя прыйшлася не даспадобы. Горад, на думку многіх, не прыстасаваны для гэтага. На Савецкай месціцца гандлёвыя рады. Цяпер, каб завезці сюды тавар, трэба пераадолець два кіламетры замест былых 500 метраў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Дажджоў хапіла на месяц

**МЯДЗЕЛ**. Пачынаючы з мінулай серады, за пяць дзён над Нараччу выпала 56 мм ападкаў. Гэта крышку менш за месячную норму (60 мм) і ўдвая больш, чым за ўвесь май.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Памёр Ян Міцько

**МАЛАДЗЕЧНА**. Памёр Ян Міцько, свяшчэннік, які стаяў ля вытокаў блізкіх стасункаў праваслаўных прыходаў Маладзечна і евангелісцкімі лютэранамі нямецкага горада-пабраціма Эслінгена.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**



## Надвор'е на выхадныя

Субота, 22 чэрвеня



Мінск
15°С (уначы)
24°С (удзень)



Вільня
10°С (уначы)
21°С (удзень)

Нядзеля, 23 чэрвеня



Мінск
11°С (уначы)
22°С (удзень)



Вільня
10°С (уначы)
21°С (удзень)

Камп'ютэр – сябар ці вораг?

Фота IREX/ProMedia.

# «Віртуальнае» ружжо выстраліла

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі ў спектаклі ў якой-небудзь дзеі на сцэне з'яўляецца ружжо, яно абавязкова выстраліць – такі закон жанру. Наша ж жыццё не ўкладваецца ў пракрустава ложа драматургічнай задумы, яно больш шматграннае, больш складанае і, нярэдка бывае, больш трагічнае.**

У адным з нумароў ("РГ", 31 мая 2002 г.) мы закранулі тэму празмернага захаплення падлеткаў камп'ютэрнымі гульнямі, прыводзілі аргументы абодвух бакоў: і тых, хто з галавой патануў у віртуальным моры забаў, і тых, хто па службовых абавязках сочыць за сітуацыяй у дзіцячым асяроддзі. Тады ж і прагучала выказванне, што жорсткасць на экране можа парадзіць жорсткасць у рэальным жыцці.

Тады мы не ведалі, што падобнае ўжо адбылося ў горадзе. 25 мая вучні восьмага і дзевятага класаў С. і Я. забілі старога чалавека. На дзікунскі ўчынак іх падштурхнула імкненне завалодаць грашыма, якія вадзіліся ў ахвяры. Ну, а знайсці ім прымяненне юныя "кібаргі" (як яшчэ назваць падлеткаў, што рашыліся на забойства?) умелі: калі не на віно пусціць, то ў камп'ютэрным салоне пакінуць. Там, дзе гульні ўсё больш жорсткія, з насіллем і крывёю. Па меркаванню псіхолагаў, яны здольны выклікаць у неакрэплай дзіцячай псіхікі самыя розныя эмоцыі. Яны – тое самае ружжо, якое ў любы момант можа зрабіць сваю крывавую справу.

Надзвычайнае здарэнне прымусіла і гарадскія ўлады, і прадстаўнікоў праваахоўных арганаў, і педагогаў яшчэ раз вярнуцца да дзейнасці камп'ютэрных клубаў і салонаў: якое "меню" прапануюць іх гаспадары юным наведвальнікам, якую мэту ставяць? Навучыць дзяцей асвоіць ПК, далучыць іх да неабмежаванай крыніцы карыснай інфармацыі альбо проста "касіць капусту", нават на дзіцячай наіўнасці і бацькоўскай недасведчанасці?

Юныя забойцы пакуль пад следствам. Начальства "накачвае" падначаленых. Школьнікі тоўпяцца ля ўваходаў у камп'ютэрныя салоны. Хто наступны трапіць у павуціну крывавай гульні?

**Віталь ПАШУК.**

### Хто вінаваты?

З надыходам лета, калі вялікая колькасць дзяцей не мае чым заняцца, злачыннасць сярод падлеткаў традыцыйна павышаецца. Як паведамляе радыё "Рацыя", упраўленнем прафілактыкі Міністэрства унутраных спраў нядаўна быў праведзены рэйд па камп'ютэрных залах. Большасць падлеткаў гуляла ў гульні, звязаныя са зброяй, забойствамі. На думку Дзмітрыя Фірагі, намесніка начальніка гэтага ўпраўлення, такія гульні негатыўна ўплываюць на псіхіку дзіцяці.

Анатоль Рубанаў, першы намеснік дырэктара Інстытута сацыяльна–эканамічных і палітычных праблем глядзіць на гэтую з'яву крыху інакш:

- Самі падлеткі прычынай адсутнасці жыццёвых мэтаў называюць вялікую колькасць вольнага часу. Выйсце, натуральна, ёсць. Але вырашаць праблему трэба на глабальным узроўні: неабходныя дзіцячыя спартыўныя пляцоўкі, бясплатныя школьныя секцыі, спецыяльныя арганізацыі, якія будуць здольныя працаўладкаваць падлеткаў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

# Журналістам пагражаюць краты

**У Ленінскім раённым судзе Гродна працягваецца судовы працэс над журналістамі зачыненай уладамі газеты "Пагоня" Мікалаем Маркевічам і Паўлам Мажэйкам, якіх абвінавачваюць у паклёпе на прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку. Пракурор запрасіў для Мікалая Маркевіча два з паловай гады папраўча-працоўнай калоніі агульнага рэжыму. Сёння на чарговым пасяджэнні з апошнім словам выступяць М.Маркевіч і П.Мажэйка.**

У аўторак пракурор папрасіў журналісту закрытай уладамі газеты "Пагоня" Паўлу Мажэйку ў якасці меры пакарання два гады папраўча-працоўнай калоніі агульнага рэжыму. Пасля таго, як дзяржаўны абвінаваўца агучыў гэтую інфармацыю, некаторыя прысутныя разгарнулі плакаты і пачалі скандзіраваць: "Ганьба!". Суддзя Таццяна Клімава тут жа аб'явіла перапынак, і пракурор не паспеў закончыць сваё выступленне.

У сераду дзяржаўны абвінаваўца папрасіў два з паловай гады турэмнага зняволення для рэдактара газеты Маркевіча.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**



Фота IREX/ProMedia.

Рэдактару газеты «Пагоня» Міколу Маркевічу за журналісцкае слова пагражаюць кратамі.

 

# Там, дзе працуюць з гімнам

**МАЛАДЗЕЧНА. Я чалавек, безумоўна, наіўны. Але каб да такой ступені! Збіраючыся на "Белхол", уяўляў сабе прадпрыемства гэтакай "фірмай", дзе ўсё: ад арганізацыі вытворчасці да ўмоў працы – на ўзроўні ўчарашняга дня. Аказалася, што памыляўся: ёсць тут і высокапрадукцыйнае абсталяванне, і сучасныя тэхналогіі, і кваліфікаваныя кадры, і нават свой гімн ёсць.**



### Перадгісторыя

Імпульс з'яўленню будучага таварыства з абмежаванай адказнасцю "Белхол" надала сумесная пастанова яшчэ ЦК КПСС і Саўміна былога Саюза аб нарошчванні аб'ёмаў выпуску тавараў народнага спажывання. Для прадпрыемстваў краіны даводзілася на кожны рубель зарплаты выпускаць столькі ж ТНС. На Маладзечанскім заводзе лёгкіх металічных канструкцый гэты паказчык складаў усяго 17 капеек, у той час, як у Мінскага завода халадзільнікаў катастрафічна не хапала плошчаў для нарошчвання аб'ёмаў. У чыёй галаве зарадзілася ідэя кааперацыі двух прадпрыемстваў – гісторыя ўтойвае. Але ўжо ў 80-х гадах мінулага стагоддзя на ЗЛМК узнік новы ўчастак, на якім пачалі збіраць камплектуючыя для беларускіх халадзільнікаў.

— Паколькі вытворчасць гэтая была дапаможнай (усяго дзесятыя, а то і сотыя долі працэнта ад агульнай вытворчасці ЗЛМК ), — прыгадвае сённяшні дырэктар ТАА "Белхол" Уладзімір Куль, — то належнай увагі ёй і не надавалася. Адсюль – перабоі з пастаўкай камплектуючых у сталіцу, пытанні з якасцю вырабаў, і як вынік – не лепшы ўплыў на рэпутацыю вырабаў з маркай МЗХ .

### Гісторыя

Яна пачалася 30 жніўня 1994 года, калі Маладзечанскі гарвыканком зарэгістраваў малое прадпрыемства "Белхол". Яго заснавальнікамі сталі ўсё тыя ж Мінскі завод халадзільнікаў і Маладзечанскі завод металічных канструкцый. Апошні ў якасці ўзносу ў статутны фонд прапанаваў недабудаваны яшчэ цэх, усё начынне, тэхналогіі, пастаўкі сыравіны і навучанне работнікаў засталіся за сталічным прадпрыемствам. Пачыналі з сямі найменняў дэталяў для айчынных халадзільнікаў, сёння ў лістах спецыфікацыі – больш за 40.

— За 8 гадоў існавання, — працягвае Уладзімір Куль, — выраслі колькасна амаль у тры разы, аб'ёмы вытворчасці павялічылі ў пяць разоў. Працуем у дзве змены, стабільна і ўпэўнена. Да прыкладу, за гэты час ніводнага разу не падвялі сваіх кліентаў. Своечасова разлічваемся з дзяржавай. У зарплаце даўно перасягнулі стадоларавую мяжу.

Не адмаўляе прадпрыемства гарадскім уладам у вырашэнні сацыяльных праграм, дапамагае медыцыне, установам адукацыі. Ды і свае работнікі, нават былыя, не забытыя: акрамя зарплаты кожны чалавек перад адпачынкам атрымлівае 50% тарыфнай стаўкі ці службовага акладу, да дня ўтварэння "Белхола" – яшчэ дзесяць "мінімалак". Пенсіянерам, якія пакінулі прадпрыемства, раз у год налічваецца сярэдні заробак, што склаўся за тры апошнія месяцы. Ёсць свая сталовая з ільготным харчаваннем...

Словам, амаль што ідылія. Па гэтай прычыне ўладкавацца на "Белхол" – справа "архіскладаная". Калі і з'яўляецца вакансія, то выбар суіскальнікаў неабмежаваны. Як ні дапытваўся ў дырэктара, па якіх крытэрыях вызначаюць будучага работніка, нязменна чуў у адказ: па ведах, майстэрству, кваліфікацыі, унутранай дысцыпліне... І ні слова пра пратэкцыю альбо "пазваночную" рэкамендацыю. Прымем запэўніванні Уладзіміра Казіміравіча як ісціну.

### «Светлыя галовы», «залатыя рукі»

Такіх людзей па "Белхоле" сапраўды нямала. Работа патрабуе ўмельства і адказнасці. Калі баранавіцкі кампрэсар уявіць як "сэрца" халадзільніка, то маладзечанскі кандэнсатар – яго "артэрыі". Стальная трубка, сагнутая ў "гармонік", павінна быць стэрыльнай, нібы медыцынская сістэма, інакш праз кароткі тэрмін яна можа проста "пацячы". Тыя ж патрабаванні і да іншых дэталяў.

На прадпрыемстве згадваюць такі факт: падчас наладкі навейшай швейцарскай камеры напылення выйшаў са строю электронны блок кіравання, і інжынер-электрык Сяргей Рагуновіч самастойна, без дапамогі прадстаўніка фірмы здолеў "управіць мазгі" машыне. У ліку майстроў "залатыя рукі" слесар-інструментальшчык Мікалай Цімаnaў, прыгатавальніца фарбы Святлана Казакевіч. Менавіта яна з'яўляецца аўтарам слоў "белхолаўскага" гімна:

Кожнае ранне ідзём на спатканне,

Шчырую працу табе аддаём...

Безумоўна, ТАА "Белхол" не адгароджана бетоннай сцяной ад агульных праблем айчыннай эканомікі. Але невялікаму па колькасці працаўнікоў калектыву, як паказаў час, жыць і выжываць лягчэй, чым "монстрам". Да таго ж у свой час здолелі ў бойкім месцы адчыніць магазін – і толькі за апошні год прыбытак ад яго склаў больш 35 млн. рублёў "жывых" грошай

Па выніках мінулага года сярод прамысловых прадпрыемстваў горада, якія трымаюць справаздачу перад органамі статыстыкі, "Белхол" заняў па выпуску прадукцыі чацвёртае месца.

Штомесячная праграма сёлета складае амаль адзін мільярд рублёў.

На прадпрыемстве ганарацца, што іх праца дазваляе лепш жыць не толькі калектыву, але і тым, хто карыстаецца прадукцыяй "Белхола", увасобленай у беларускім халадзільніку.

**Аляксандр ВІТАЛЬЕЎ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 13 чэрвеня | 20 чэрвеня |
|---|---|---|
| Долар | 1786,00 руб. | **1794,00** руб. |
| ЕЎРА | 1694,11 руб. | **1713,72** руб. |
| Злоты | 443,18 руб. | **446,52** руб. |
| Літ | 490,63 руб. | **496,51** руб. |
| Расійскі рубель | 56,89 руб. | **57,07** руб. |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 1790 – 1810 руб. | **1800 – 1820** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 12.06 | 19.06 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11700 | – |
| Сасіскі, 1 кг | 2175-4900 | – |
| Селядзец, 1 кг | 2300 | – |
| Рыс, 1 кг | 650-1000 | 650-950 |
| Грэчка, 1 кг | 510-580 | 530-590 |
| Цукар, 1 кг | 740 | 740-775 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 680-880 | 680-880 |
| Алей, 1 л | 1400-1950 | 1400-1950 |
| Маянэз, 200 г | 400-550 | 400 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1900 | 1900 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 580 | 600 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 530-600 | 600 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1300 | 1200-1500 |
| Капуста, 1 кг | 490-650 | 500-600 |
| Лімоны, 1 кг | 1200-2150 | 1800-1950 |
| Апельсіны, 1 кг | 1400-1500 | 1350-1500 |
| Агуркі, 1 кг | 800-1000 | 600-900 |
| Памідоры, 1 кг | 1800-2000 | 1850-2200 |
| Чарэшня, 1 кг | 1800-2500 | 2000-2500 |
| Клубніцы, 1 кг | 1500-2500 | 1350-1800 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1700-1800 | 1900-2000 |
| Масла, 1 кг | 3500-3600 | 3600 |
| Тварог, 1 кг | 1300-1400 | 1500 |
| Малако, 1,5 л | 450-500 | 500-600 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1300-1400 | 1200-1300 |
| Бульба, 1 вядро | 2800-3000 | 2700-3000 |
| Бульба маладая, 1 кг | 1500-2500 | 1300-2000 |
| Клубніцы, 5-літровае вядро | 5000-5500 | 5000-6000 |
| Чарніцы, 5-літровае вядро | – | 8000 |
| Суніцы, 5-літровае вядро | – | 15000 |
| Чорная парэчка, 5-літр. вядро | – | 5000-6000 |

# Калгасны рынак: стан дрэнны

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую суботу, 15 чэрвеня, спецыялістамі цэнтра гігіены і эпідэміялогіі праведзеная праверка на харчовым рынку.**

Знойдзена шмат парушэнняў санітарных правілаў. Таму мясны і рыбны павільёны зачынены да 18 чэрвеня. Цяпер там робіцца генеральная ўборка. Мясны павільён таксама павінны былі зачыніць. Але ў сераду ён яшчэ працаваў, бо адміністрацыі рынку не было магчымасці паведаміць сялянам аб тэрміновым яго закрыцці. У часе праверкі рынку яго тэрыторыя была ў нездавальняючым стане. У павільёнах – брудныя рабочыя месцы, захоўваліся асабістыя рэчы. Не ўсё халадзільнае абсталяванне працуе з тэрмометрамі, лямпачкі – без плафонаў. Частка прадуктаў захоўвалася без халадзільнікаў. За парушэнне санітарных патрабаванняў пакарана больш за 25 індывідуальных прадпрымальнікаў.

Сітуацыю каменціруе загадчыца аддзялення гігіены харчавання Людміла МАЙКО:

— Адміністрацыя рынку паслабіла кантроль. Хто хоча, той і заязджае на тэрыторыю. За ўмовамі рэалізацыі тавару таксама не сочаць. Прадпрымальнікі, як хочуць, так і дзейнічаюць. На час праверкі адміністрацыя рынку адсутнічала.

**Іона ЭР.**

# У пакрышак «выраслі ногі»

**АСТРАВЕЦ. Пасля ночы жыхар вёскі Міхалішкі ў сваім гаражы не знайшоў 25 аўтамабільных пакрышак і бензапілу.**

Неўзабаве да пошуку крадзенай маёмасці былі падключаны аператыўнікі з мясцовага райаддзела міліцыі. Менавіта яны выйшлі на след жыхара Варнян, які прызнаўся, што піле і пакрышкам "зрабіў ногі". Як гэта адбылося, падрабязней ён цяпер распавядае следчым у рамках узбуджанай крымінальнай справы.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

# Мнагадзетных сем'яў меншае

**СМАРГОНЬ. У гэтым годзе па раёне зарэгістравана 482 мнагадзетныя сям'і, у мінулым – 528.**

У 400 сем'ях выхоўваецца па трое дзяцей. Самая вялікая колькасць дзяцей – 10 – гадуецца ў сям'і Савіцкіх са Смаргоні. 9 дзяцей – у сям'і Гурскіх з вёскі Жодзішкі.

**Ірына РАБУШКА.**

# Начныя гонкі

**АСТРАВЕЦ. Сярод ночы ў жыхара Літвы ўкралі аўтамабіль"Аўдзі-100". Пакінуў гаспадар яго ля вёскі Слабодка адчыненым і з ключамі ў замку запальвання.**

"Пакатацца" вырашыла 25-гадовая мясцовая жыхарка, якая сярод ночы перакулілася на крадзеным аўтамабілі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

# Кветкі ад выпускніка

У суботу і нядзелю ў рэгіёне пройдуць выпускныя балі. Акрамя прыгожых сукенак і арганізацыі самога мерапрыемства, у бацькоў і іх дзяцей ёсць і іншыя клопаты. Напрыклад, які букет купіць настаўнікам і колькі гэта будзе каштаваць.



Кветкавыя павільёны Маладзечна прапануюць:

гваздзікі – ад 800 руб. да 1тыс.,

ружы – ад 1 тыс. руб. да 3,5 тыс. руб.,

герберы – 1,5 тыс. руб.,

хрызантэмы – 1,8 тыс. руб.,

лілеі – 5 тыс.руб.

Чым даўжэй ножка кветкі, тым больш яна каштуе. Галандскія кветкі таксама каштуюць больш. Беларуская прадукцыя, наадварот, танней. Так, беларускія ружы каштуюць ад 1 тыс. руб. да 1,2 тыс. руб.

У кветкавым павільёне па вуліцы Валынца яны будуць ужо па 1,1-2 тыс. руб., але тут яны больш свежыя. Новыя ружы з'яўляюцца кожны дзень, і прадавец дае гарантыю, што кветка прастаіць 7-10 дзён.

У іншых жа кветкавых кіёсках прывоз бывае два разы на тыдзень. Афармленне букета павышае яго кошт ад 100 да 1,5 тыс. руб.

**Ірына ГЛУШАКОВА.**

■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Футбол закончыўся на 3-й хвіліне

**18.05 Маладзечна-2000 – БАТЭ (Барысаў) 1:3 (0:2)**

Галы: Сідарэнка (89); Бага (1, 3, 53)

Суддзя Юрый Майстраў (Фаніпаль), 500 гледачоў

**Макрыцкі — Мігас**
**Сідарэнка**
**Рапецкі (Тартоўскі, 46) — Акуліч (Лявончык, 58)**
**Сарасек — Міхалёў (к)**
**Дрозд (Сысой, 46) — Бычкоўскі**
**Муравейнікаў**
**Рубацкі**

Папярэджанне – Сідарэнка

Лепшы – Сідарэнка

Тыя, хто спазніўся на стадыён да самага пачатку гульні, прыйшлі туды, калі гульня ўжо была, што называецца, зроблена. Гасцям удаўся дэбютны бліцкрыг, і потым падзеі на полі амаль страцілі сэнс як спаборніцтвы. Засталася толькі чакаць нейкіх мастацкіх праяў, падобных на тыя, што бачым на чэмпіянаце свету. Аднак спякота нараджала ў гульцоў апатыю.

Забіваў у БАТЭ абаронца **Бага**, замыкаючы галавою флангавыя падачы. Пасля перапынку ён аформіў хет-трык – незвычайную з'яву для гульцоў яго амплуа. Натуральна, пытанні да нашай абароны. Чаму дазволілі гэтаму невысокаму хлопцу забіць не адзін і нават не два галы?

А ўвогуле барысаўчане мелі нямала галявых момантаў, але транжырылі іх. Ну, і як маглі перашкаджалі працаўніку маладзечанцы. Крыху вылучаўся ў нашым складзе **Сідарэнка**. І змагаўся ў сярэдзіне поля, чаму пацвярджае атрыманая картка, і аднойчы апынуўся на вастрыні атакі, але вырашыў прабіць злёту, што ў яго не атрымалася. Нарэшце, напрыканцы сустрэчы, калі абедзве каманды чакалі фінальнага свістка і, здавалася, забыліся аб існаванні на полі такой рэчы, як вароты, Сідарэнка ўзяў і стрэліў метраў з дваццаці пяці. Атрымалася правай нагою ў правую ж дзевятку. Вось і дачакаліся мастацтва! Дзякуй табе, Сярожа! Аднак чамусьці пакідаць стадыён усё роўна было сумна.

Тарпеда-МАЗ – Тарпеда 0:1. Лакаматыў-96 – Белшына 0:4, Днепр-Трансмаш – Славія 3:0, Тарпеда – Нёман 0:2, Шахцёр – Тарпеда-МАЗ 2:2, Дынама (М) – Дынама (Б) 1:2. Зорка-ВА-БДУ – Гомель 1:2.

| | |
|---|---|
| Гомель | 22 |
| Нёман | 22 |
| Тарпеда-МАЗ | 21 |
| БАТЭ | 20 |
| Днепр-Трансмаш | 18 |
| Тарпеда | 17 |
| Шахцёр | 17 |
| Белшына | 16 |
| Дынама (М) | 15 |
| Дынама (Б) | 13 |
| Зорка-ВА-БДУ | 8 |
| Маладзечна-2000 | 4 |
| Лакаматыў-96 | 3 |
| Славія | 2 |

Бамбардзір: Стрыпейкіс (Славія) – 9.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ

# Ух! Ну і сенсацыі!

**Датэрмінова пакінулі мундзіаль Францыя, Аргенціна, Партугалія, Італія. Французы згулялі слаба, не забілі ніводнага гола.**

Не пакінулі першынство пакуль восем зборных. Яны прадстаўляюць усе кантыненты. Чатыры каманды мае Еўропа (упершыню так мала).

**Бразілія – Англія.**

Паўднёваамерыканцы заraз відавочныя фаварыты. У іх гульні прываблівають вельмі прыгожыя галы. Аказалася, што ў бліскучай спартыўнай форме знаходзяцца **Раналда** (5 галоў) і **Рывалда** (4 галы). У адрозненне ад многіх іншых зорак, яны мэтанакіравана ўвесь сезон рыхтаваліся да сусветнага першынства. Вельмі прыемна за "Зубасціка". Амаль два гады ён не гуляў з-за звышсур'ёзнай траўмы калена, і вось зараз вярнуўся ў вялікі футбол. Якасна наперадзе дапамагае **Раналдзіньа**, а ў цэнтры поля ўчэпіста змагаюцца астатнія партнёры.

Магчыма, англічанам удасца выкарыстаць некаторыя хібы ў абароне бразільцаў? Так, як гэта яны зрабілі ў матчы з Даніяй? Лідэр паўабароны **Бэкхэм** (таксама аднавіўся пасля траўмы) і лепшы футбаліст мінулага года ў Еўропе нападаючы **Оуэн** пралезуць нават у невялікую дзірачку. Поўны парадак у абароне: на гэты момант прапушчаны толькі адзін гол. Нельга не адзначыць мудрага трэнера шведа **Эрыксана**.

**Германія – ЗША.**

Немцы, абаронай якіх заведуе галкіпер **Кан**, таксама прапусцілі толькі аднойчы. Яны заўсёды знаходзяцца ў спісе моцнейшых зборных, і сёлетні чэмпіянат не выключэнне. Не шкадуюць ні сябе, ні сапернікаў на полі, таму шмат картак, але дыскваліфікаваных гульцоў абавязкова ёсць каму замяніць (адзначым працу умелую тактычную працу трэнера **Фёлера**). Наперадзе забівае **Клозе**, які ўсе свае 5 галоў правёў галавою, хаця ростам і не надта высокі.

**Іспанія – Карэя.**

Упэўнена прайшоўшы групавы этап, Іспанія забіла хуткі гол у 1/8-ай ірландцам, а потым чамусьці аддала ініцыятыву сапернікам. Тыя давалі справы да пасляматчавых пенальці (пакуль адзіных на мундзіале), але іспанцы ўсё ж пераважалі. Маючы форвардаў **Рауля** і **Мар'ентэса** (абодва забілі па 3 галы) і спасаўшага ў адзінаццаціметровых справах варатара **Касільяса**, чвэрцьфінал падаецца дастойным вынікам для гэтай каманды. Каб праходзіць далей, нешта трэба ўзмацняць.

Ну, а карэйцы, пад кіраўніцтвам галандца **Хідзінка**, абыграўшыя ўжо тры еўрапейскія зборныя, альбо нарэшце стомяцца, альбо дакажуць свае права на выхад у паўфінал. Пасля Партугаліі і Італіі ім баяцца няма каго.

**Сенегал – Турцыя.**

Падабаецца мне сенегальцы. Гэтак жа як і бразільцы, гуляюць свабодна, лёгка, ледзь не з усмешкамі на тварах. Праўда, пасля перамогі над Францыяй былі толькі нічыі (у 1/8-ай забілі "залаты гол" у дадатковы час). Што ні матч, так у іх складзе вылучаецца новы лідэр: **Дыуф**, **Фадзіга**, **П.Б. Дыоп** (забіў 3 галы), **А. Камара**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Анонс**

**23.06 16-00 Смаргонь – Ліда**

**23.06 Забудова – Старыя Дарогі**

+3=1-2 10-8. Летась 2:1 (Міраповіч – 2) на выездзе і 1:3 (Ваўчок) дома

**25.06 Дынама (Б) – Маладзечна-2000**

+3=6-9 15-34. Летась 0:0 на выездзе і 1:0 (Турчыновіч) дома.

## Ах, вы коні, мае скакуны

**МАЛАДЗЕЧНА. 28-30 чэрвеня ў вёсцы Палачаны пройдзе чацвёрты этап Кубка Беларускай федэрацыі коннага спорту.**

Удзел у спаборніцтвах прымуць не толькі мацнейшыя коннікі краіны, але і тыя, хто яшчэ шукае сваё месца ў спорце і для каго сустрэча ў Палачанах – чарговая магчымасць пераканацца ў правільнасці выбару.

Арганізатары спаборніцтваў, а сярод іх БФКС, Маладзечанская ДЮСШ, СПК "Палачаны", запрашаюць далучыцца да свята прыгажосці, лоўкасці і гармоніі, якія ўвасабляюць сабой наезнік і конь.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ПЕРШАЯ ЛІГА

# Госці вырываюць перамогу

**15.06 Смаргонь – Нёман (Масты) 0:1 (0:0)**

Суддзя Юрый Кунцэвіч (Гродна), 3000 гледачоў

Гол: Горбач (85)

Склад: Шляхавой, Іваноў, Селіванаў, Курак, Давідовіч, Карабінскі, Дукса, Стэльмах (Кошаль, 68), Шпакоўскі, Шамшоўк, Сілін

Кадравыя праблемы смаргонцаў яшчэ больш ускладніліся: узніклі праблемы з каленам у **Шаблінскага**. Гульцы, што засталіся ў страі, дзейнічалі, як маглі. Гэтага аказалася недастаткова, каб не даць мастаўчанам напрыканцы матча парадавацца, быццам яны выйгралі чэмпіянат свету.

Гаспадары мелі дзве добрыя магчымасці для ўзяцця варот. У першым тайме пасля падачы **Дуксы** злева на далёкай штанзе крыху міма галавою прабіў **Іваноў**. Ужо пры ліку 0:1 небяспечна з разварота біў нагою **Кошаль**, але саперніказ выратаваў галкіпер.

Моманты ля варот смаргонцаў узнікалі, калі працаўнік імкнуўся гуляць праз другі паверх, дзе меў перавагу. Так яны і забілі. Падача вуглавога – скідка мяча галавою – галявы ўдар таксама галавою.

**19.06 Граніт (Мікашэвічы) – Смаргонь 2:0 (1:0)**

Суддзя Валерый Вялічка (Мінск), 2000 гледачоў

Галы: Мясніковіч (7), Жураўскі (90)

Камунальнік – Ліда 2:2, Днепр-ДЮСШ-1 – Граніт 0:1, Нафтан – Дынама-Юні 7:1, Ведрыч-97 – Дарыда 1:2, ЗЛіН – Лакаматыў 1:0, Бяроза – Хімік 3:2, Асіповічы – Тарпеда-Кадзіна 1:2. Тарпеда-Кадзіна – Камунальнік 1:1, Хімік – Асіповічы 1:1, Дарыда – ЗЛіН 3:1, Лакаматыў – Бяроза 3:0, Нёман – Нафтан 1:2, Дынама-Юні – Ведрыч-97 1:2, Ліда – Днепр-ДЮСШ-1 3:1.

| | |
|---|---|
| Дарыда | 29 |
| Нафтан | 24 |
| Ведрыч-97 | 24 |
| Граніт | 22 |
| Лакаматыў | 21 |
| ЗЛіН | 19 |
| Тарпеда-Кадзіна | 16 |
| Ліда | 14 |
| Камунальнік | 14 |
| Днепр-ДЮСШ-1 | 13 |
| Хімік | 12 |
| Смаргонь | 11 |
| Нёман | 10 |
| Бяроза | 9 |
| Асіповічы | 6 |
| Дынама-Юні | 4 |

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Беларусам не атрымалася паказаць сябе на чэмпіянаце свету па футболу. Але мы можам пахваліцца тым, што нас ведаюць у такім відзе спорту, як бодзібілдынг.




Фота IREX/Pro Media.

**У час чэмпіянату Еўропы па бодзібілдынгу ў Мінску. 19 мая 2002 года.**

# Спаборнічалі санітарныя дружыны

**Ва ўрочышчы Дубаўка пад Вілейкай прайшлі спаборніцтвы санітарных дружын.**

Раней падрыхтоўкай іх на прадпрыемствах і ва ўстановах займалася таварыства Чырвонага Крыжа, сёлета ўпершыню – раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях.

Удзельнічалі шэсць каманд. Пяць з іх прадстаўлялі раённыя прадпрыемствы, і толькі адна з іх была гарадская, з завода "Зеніт".

"Зенітаўскія" сандружынніцы былі пераможцамі такіх спаборніцтваў у мінулым годзе. Сёлета яны падзялілі першынство з сандружынай калгаса "Вязынь". Вязынскія дзяўчаты, дарэчы, аказаліся лепшымі самадзейнымі артысткамі. Конкурс самадзейнасці ў агульную праграму не ўваходзіў і ацэньваўся асобна, як і падрыхтаваныя канкурсанткамі санітарныя бюлетэні.

У асноўным жа конкурсе сандружынніцам трэба было пераадолець некалькі этапаў – аказаць дапамогу пацярпелым у ачагах хімічнага, ядзернага і бактэрыялагічнага заражэння. Суддзямі былі ўрачы з райпаліклінікі. Увогуле, кожная з шасці каманд у нечым вызначылася: ці ў песнях, ці ў падрыхтоўцы санітарнага бюлетэня, ці ў майстэрстве аказання першай дапамогі.

Галоўны суддзя спаборніцтваў – загадчык тэрапеўтычнага аддзялення Іосіф Ордаш.

**Алена АЛЬФЕР.**

**Табло**

■ **ДЗЮДО**

Нядрэнна выступілі маладзечанскія хлопцы на некалькіх прадстаўнічых турнірах.

На рэспубліканскім турніры ў Мінску сярод хлапчукоў 1989-90 гадоў нараджэння вызначыўся **Віталь Шаўлюк**. Ён першынстваваў у катэгорыі да 46 кг. Там сабралася каля трыццаці ўдзельнікаў, таму давялося правесці пяць схваткак.

Практыку міжнародных турніраў мелі юнакі 1985-86 г.н.. Спачатку яны выступілі ў Курску і Брэсце, потым ездзілі ў Каўнас. Прывезена тры трэція месцы. З Курска і Каўнаса – **Максімам Хітрыкам** (да 90 кг). Правёў адпаведна чатыры і тры схваткі. З Брэста – **Аляксандрам Мойсам** (да 60 кг; 4 схваткі).

Трэніруе хлопцаў **Вячаслаў Дзеравянка**. Шмат увагі ім таксама надзяляе **Расціслаў Мойса**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ **РЭГУЛЯРНЫ ЧЭМПІЯНАТ**

**15.06 Забудова – Палессе (Мазырскі раён) 2:2 (1:1)**

Галы: Савіцкі (45), Відрук (70-п); (28), (58)

**17.06 Маладзечна-2000 (дубль) – БАТЭ (Барысаў, дубль) 1:1 (0:0)**

Галы: Грыхуцік (69); (58)

На рахунку Грыхуціка ўжо чацвёрты гол сёлета

**19.06 СКВІЧ (Мінск) – Забудова 2:0**

■ **АМАТАРСКІ СПОРТ**

У польскую Ломжу на сусветныя гульні школьнай моладзі (1988 года нараджэння і малодзей) ездзілі прадстаўнікі Ашмянскага раёну. Выхаванцы **Валерыя Ясіёна** змагаліся ў таэквандо. 6 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка занялі другое каманднае месца. У гандболе (трэнер **Алена Александровіч**) ашмянцы сталі трэцімі.

■ **ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА**

На міжнародных юнацкіх гульнях краін СНД, Балтыі і рэгіёнаў Расіі выступіў маладзечанскі барэц **Павел Харашэвіч** (да 58 кг). На жаль, ён спыніўся на папярэднім, групавым раўндзе. Тым не менш, адзначым, што Павел – адзіны юнак з рэгіёну, хто трапіў на гэтыя буйныя комплексныя спаборніцтвы.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Турзлёт на беразе Віліі

**МАЛАДЗЕЧНА. З 14 па 16 чэрвеня ва ўрочышчы плёсы на беразе Віліі прайшоў турзлёт калектываў фізкультуры горада. Удзельнічалі каманды Маладзечанскіх электрасетак, ВА "Камунальнік", завода "Спадарожнік" і турыстычнага клуба "Пілігрым".**

У выніку упартай барацьбы паміж камандамі МЭСа і "Спадарожніка" першае агульнакаманднае месца заняла каманда завадчан, 2–е – МЭСа, 3–е – ВА «Камунальнік».

У праграме сярод іншага было начное арыентаванне, турнірная паласа для дзяцей, дзе прызамі былі цукеркі...

**Сяргей БЯЛКОЎ.**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

# Ці варта служыць у арміі?



**Дзмітрый ПАЧЫШАЎ, беспрацоўны:**
— Мне не дазваляе здароўе служыць у арміі. Таму вельмі хачу. Каб здароўе было добрае, тады не ведаю. Наогул, за мяне бацька тры гады адслужыў.



**Уладзімір ЧАПЕНЬКА, студэнт:**
— Не хачу. Там няма чаго рабіць. Згубленыя паўтара года. Ну, каб грошай і дзевак было шмат, дык пайшоў бы.



**Сяргей МАМАЙ, ахоўнік:**
— Зімой вярнуўся з арміі. Шкадую, што служыў. Была б магчымасць, не пайшоў бы. Калі толькі за грошы.



**Таццяна КРЫШТАЛЬ, педагог-арганізатар:**
— Варта. Мой муж служыў. Казаў, што там добра. І я ганаруся ім за гэта.



**Галіна ЮРПАЛАВА, настаўніца:**
— А як жа, абавязкова. На жаль, зараз адносіны да арміі змяніліся. У маю маладосць дзяўчаты нават сябраваць не хацелі з хлопцамі, якія не служылі ў арміі. Бо армія выхоўвае сапраўднага мужчыну.



**Аляксандра МАРЫСКІНА, школьніца:**
— Варта. На выпадак вайны. Калі хлопцы добра будуць служыць, то змогуць нас абараніць.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

## Гараскоп 24 – 30 чэрвеня



**Авен** (21.03–20.04)

Звярніце ўвагу на дробязі, якія будуць 22-23 чэрвеня, таму што многія з іх могуць з'явіцца ключом да разумення падзей, якія адбудуцца. 25 чэрвеня вы атрымаеце тое, што лічылі згубленым назаўсёды. 28 чэрвеня павысіцца інтэлектуальны патэнцыял, а эмоцыі будуць стабільныя.



**Цялец** (21.04–21.05)

У гэтыя дні будзе лёгка і проста дамовіцца нават па самых складаных пытаннях. Вы знойдзеце кампраміс у вырашэнні праблем і зможаце ўладкаваць адносіны з тым, хто быў на вас нядаўна пакрыўджаны. Прыглядзьцеся да падзей паблізу 26 чэрвеня: магчымы нестандартны падыход да фінансавых спраў.



**Блізняты** (22.05–21.06)

У пачатку перыяду адбудзецца прыток сродкаў, у тым ліку і фінансавых. Галоўнае, каб іх разумна размеркаваць. Але жанчыны-Блізняты будуць схільныя да неапраўданых страт, а мужчыны могуць наладзіць «хлапечнік». І ў гэтым выпадку ўсе вашыя датацыі ператворацца ў даўгі...



**Рак** (22.06–23.07)

24-25 чэрвеня можаце сказаць «Дзякуй!» сабе, каханаму. Калі вы, вядома, у папярэдняя паўгода займаліся справай, а не самабічаваннем. Магчымае паступленне грошай ці, у лепшым выпадку, заключэнне выгадных кантрактаў - пастаянных крыніц фінансавання. Магчымая паездка за мяжу.



**Леў** (24.07–23.08)

Складаныя задачы будуць пастаўлены перад вамі 21-22 чэрвеня, не пазбягайце іх. Выступайце з адкрытым забралам, і ўсё атрымаецца. Праблемы даставяць малодшыя члены сям'і і партнёры па шлюбу: іх пацягне на авантуры, а вам прыйдзецца толькі паспяваць паварочвацца...



**Дзева** (24.08–23.09)

Перыяд спакою і кахання. За што б вы ні браліся, усё будзе атрымоўвацца. Вам застанецца толькі дзякаваць лёсу за такую прыхільнасць. А вось прафесіянальны рост у вас прыпыніцца: абяцанае павышэнне ў пасадзе ці прыбаўка да зарплаты трохі адсунуцца па часе.



**Шалі** (24.09–23.10)

22 чэрвеня смела фармулюйце запытанні, якія тычацца сацыяльных дасягненняў і асабістага развіцця. 25 чэрвеня выступіце арганізатарам вечарынкі ці пікніка, запрасіце гасцей. 28 чэрвеня падыходзіць для хуткага і інтэнсіўнага навучання чаму-небудзь новаму.



**Скарпіён** (24.10–22.11)

Да 25 чэрвеня вы адчуеце, як шмат з таго, што яшчэ нейкі час назад здавалася ірэальным, пачынае рэалізоўвацца і ператварацца ў жыццё. 28 чэрвеня завершыцца адыход усяго негатыўнага з вашага жыцця. Ваша адчуванне шчасця распаўсюдзіцца на сяброў, блізкіх і сям'ю.



**Стралец** (23.11–21.12)

Менш прагматызму, больш рамантыкі - вось дэвіз гэтых дзён. Тым больш, не заладзіцца ніводная з прадпрымаемых спроб «рушыць бізнес». 25-28 чэрвеня - паслядоўнасць розных падзей, якія не падлягаюць ніякай лагічнай схеме. Можа, падвесці арганізм - скажацца стомленасць.



**Казярог** (22.12–20.01)

Перыяд павінен быць прысвечаны самапаглыбленню, фармуляванню бліжэйшых мэт і задач. Ужо 25 чэрвеня вы адчуеце, што вашыя заклікі пачуты і прынятыя да ведама. Пасля 28 чэрвеня многае стане на свае месцы, праца пачне прыносіць задавальненне. Палепшыцца самаадчуванне.



**Вадалей** (21.01–19.02)

Справы пойдуць роўна, зносіны прынясуць задавальненне. Значна ўзрасце творчы патэнцыял. Магчыма, гэта будзе звязана з любоўнай прыгодай, якая будзе на дзіва яркай, эмацыянальнай і нават прыгожай. У выхадныя дні чакайце прыемнага госця.



**Рыбы** (20.02–20.03)

У многіх Рыб наступіць поўнае выздараўленне, у тым ліку і ад «душэўных мук». Добрае самаадчуванне адаб'ецца і на справах: у вас усё будзе атрымлівацца лёгка і хутка. Магчымыя канструктыўныя прапановы ў галіне прафесіянальнай дзейнасці - вы можаце памяняць месца работы.

# Дзе талію будзем мераць?

Хутка ва ўсіх краінах Еўрасаюза будуць уведзены адзіныя размеры адзення. Еўрапейскае агенцтва па стандартах CEN распрацоўвае новыя стандарты пры ўдзеле нацыянальных урадаў і вытворцаў адзення. Чакаецца, што праект будзе прыняты ў канцы гэтага года ці ў пачатку наступнага.

Па словах Фрэнка Мура, старшыні Камітэта па новых стандартах, сістэма не будзе абавязковай, але хутчэй за ўсё большасць вытворцаў і гандляроў прымуць яе. Ён мяркуе, што нейкі час старыя і новыя стандарты будуць існаваць паралельна, пакуль спажыўцы не прывыкнуць да апошняга. Яго словы выклікалі вострую крытыку ў Брытаніі.

Так, таблоід Daily Mail называе жанчын "новымі пакутніцамі метрычнай сістэмы" – размеры многіх з іх павялічацца з "супакойваючых" лічбаў 38-29-39 дзюймаў да "непрыемных" 97-74-99 сантыметраў. Акрамя таго, газета малюе змрочныя перспектывы для праціўнікаў новай сістэмы, указваючы пры гэтым на лёс брытанскіх мяснікоў і гандляроў садавіны, многіх з якіх прыцягнулі да судовай адказнасці за адмову прыняць адзіную еўрапейскую метрычную сістэму шаляў.

Зараз у Еўропе існуе мноства розных стандартаў памераў адзення: так, брытанскі 12-ы размер адпавядае размеру C38 у Нарвегіі, Швецыі і Фінляндыі, 38-му — у Германіі і Галандыі, 40-му — у Бельгіі, 44-му — у Італіі і 44-46-му — у Партугаліі і Іспаніі. Па новым праекце цяпер усе гэтыя размеры з прыведзенага прыкладу на этыкетцы будуць абазначацца адным – "74 см". На новых этыкетках будуць піктаграмы і адлюстраванні чалавечага цела з прамерамі ў розных месцах, у тым ліку, вядома, на таліі, бёдрах і грудзях.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **9170 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№25 (375) 21.06.2002.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 1802. Падпісана ў друк у 13.00 20.06.2002

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**
**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»